


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 4 (1143) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 22 СТУДЗЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.




## БЕЛЫ КАСНІЧОК

*Ты яшчэ гэтага, сэрца, не знала,*
*Хоць і прайшло праз вайны ураган...*
*У Асвенціме ляжалі навалам*
*Косы жаночыя.*
*Шэры курган.*

*Тыя жанчыны пакутліва зніклі...*
*Хочацца з гэтага месца ўцячы...*
*Гэта ніколі не зробіцца звыклым —*
*Пільна ўглядайся і гнеўна маўчы.*

*Раптам убачыў я збоку ў той грудзе*
*Косы дзяўчынкі і белы каснік.*
*Хто ты, малая пакутніца?*
*Людзі,*
*Перадсмяротны вы чуеце крык?*

*...Як у дзяўчатак у косах убачу*
*Сёння маленькі такі касніčок,*
*Сэрца пакіне мяне і заплача,*
*І на хвіліну наваліцца змрок.*

* ✲ *

*Апалашчуся хвалямі вятроў*
*І белым воблакам я вочы свае вымыю...*
*Стаміўся трохі ад сваіх сяброў,*
*І ад мяне стаміліся сябры мае.*

*Адвыклі мы ад простых добрых слоў*
*І перажоўваем штодня старыя ісціны...*
*Кіпяць дубы ўсхвалёванымі лісцямі*
*Пад воблачнымі крыллямі буслоў.*

*Здаецца, ўсё я ў вас адкрыў, сябры,*
*А тоіце там нешта, дык прытойвайце.*
*Не страціце ніколі вы прытомнасці,*
*Як сосны, бурай збітыя ў бары.*

*Ну колькі тых паэтаў ёсць у нас?*
*Чатыры альбо пяць,*
*А ўсё астатняе —*
*Наіўны сон,*
*Адна магіла братняя.*
*Няздзейсненых задум тваіх, імклівы час.*

*І я такі ж няздзейснены,*
*Такі ж*
*Недакапаны да вады калодзеж,*
*А ісціну хлуснёй не пазалоціш,*
*Яна са мной, як пахавальны крыж.*

*Чаму мы часта цешымся лухтой?*
*А вершы — галавешкамі ачахлымі.*
*Гляджу на воблакі —*
*І слёзы на вачах маіх,*
*І добра, што не бачыць іх ніхто.*

*А нехта ж прыйдзе мудры, як дзіця,*
*І пазірне туды, куды глядзелі мы,*
*І пятніцы ўсе зробяцца нядзелямі,*
*І ў вершах зазвіняць званы жыцця.*

**Пімен Панчанка**



*У Бандарах ніхто не любіць сядзець без працы...*

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## БАНДАРЫ

Перад гэтай вёсачкай з яе 20 гаспадаркамі паўсталі незвычайныя перспектывы стаць за якія-небудзь дзесяць год вядомым для ўсяе Беласточчыны цэнтрам адпачынку. Цяпер жа дзень у дзень сюды далятае няспыннае гудзенне магутных бульдозераў і самазвалаў, а на колішнім выгане паволі вырастае шырокая плаціна, што неўзабаве перагародзіць раку Нарву і за ёю, як вокам сягнуць, заплешчацца Семяноўскае мора. З акалічных палёў не сыходзяць інжынеры — вызначаюць месцы пад усё новыя і новыя аб'екты: гасцініцу, рэстаран, месцы на прыватныя дачы. І гэта цешыць усіх **Баршчэўскіх, Бураў, Казберукоў, Міруцёў і Назаркаў** — уладальнікаў невялічкіх гаспадарачак на неўраджайных пясках, на якіх хоць сам неяк і пражывеш, але занадта не разгонішся. А вось праз некалькі год будзе дадатковая праца, павялічацца даходы з гаспадарак за гародніну, садавіну, малако і г.д. Некаторыя ўжо працуюць пры пабудове вадасховішча.

Гэтае маляўнічае месца над ракою Нарвай здаўна прываблівала чалавека. Яшчэ ў пачатку дваццатых гадоў беластоцкі археолаг З. Шміт адкрыў каля суседняй з Бандарамі вёскі Рудня *стаянку людзей з эпохі неаліта* (2500-1700 год да нашай эры). Людзі паказваюць таксама і таямнічы *курган* непадалёк вёскі Багнюкі, што знаходзіцца по-

(Працяг на стар. 4)

### КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСКАГА ПАЛЕССЯ

Раней тут панавалі магнаты Скірмунты. Людзі працавалі на іх ад цямна да цямна, а самі ледзь жылі.

Нялёгка давялося тутэйшым сялянам будаваць калектыўнае жыццё. Не паспелі стварыць калгас, як пачалася Вялікая Айчынная вайна. І зноў усё ад пачатку. У першыя часы ў супольнай гаспадарцы было ўсяго толькі пара валоў ды дзесятак коней. Старажылы добра памятаюць першыя калгасныя сходы: паколькі не было ніякага памяшкання, то яны адбываліся на поплаве за сялом.

З бегам часу сельскагаспадарчыя ўжыткі калгаса расшырыліся да 2 700 гектараў.

## КАЛГАС „АСНЕЖЫЦКІ"

Сёння ж тыя, хто калісьці перабіваўся з хлеба на ваду, жывуць у дастатку і заможнасці. Вось, напрыклад, сям'я калгаснага механізатара Аркадзя Хахолкі. Сам гаспадар — шафёр, зарабляе ў месяц звыш 200 рублёў, не ўлічваючы ў гэта прэмій і іншых узнагарод. Прыкладна такія ж заробкі і ў яго жонкі, жывёлавода.

— Заработная плата — не адзіная крыніца нашага сямейнага даходу, — расказвае Аркадзь Хахолка. — Мы маем яшчэ прысядзібны ўчастак велічынёй у паўгектара. Пералічыўшы на грошы, ён штогод дае нам каля паўтары тысячы рублёў. Увесь жа наш гадавы сямейны бюджэт даходзіць да 7 тысяч рублёў.

— Ці не замнога клопату, — пытаюся, — апрацоўваць прысядзібны ўчастак?

— Ён для нас не цяжар. Зямля апрацоўваецца калгаснай тэхнікай, пры тым цалкам бясплатна. Між іншым, усё больш калгаснікаў зракаецца індывідуальных агародаў. Неабходныя прадукты можна набыць па невысокай цане ў калгасе, а малаком, напрыклад, усе сем'і абяспечваюцца бясплатна, яго даста́ўляюць у кожную кватэру ў патрэбнай колькасці.

У сям'і Хахолкі трое дзяцей. Старшы сын ходзіць у школу, меншыя наведваюць дзіцячы сад і яслі. На іх навучанне і ўтрыманне ў дзіцячым камбінаце бацькі не выдаткоўваюць ні рубля.

Пра тое, што бюджэт сям'і шафёра Аркадзя Хахолкі не малы, сведчаць і такія факты. Яго трохпакаёвая кватэра (агульнай плошчай каля ста квадратных метраў) абстаўлена навейшай мэбляй, у гаражы — уласная аўтамашына „Жыгулі".

Зразумела, што так жыве не толькі гэтая сям'я. Сацыяльныя перамены, якія адбываюцца ў калгасе „Аснежыцкі", знаходзяць яскравае выражэнне ў павышэнні жыццёвага ўзроўню ўсіх працаўнікоў палёў і ферм. І з кожным годам магчымасцей для гэтага становіцца ўсё больш. Калі ў першыя гады існавання калгаса грашовыя даходы гаспадаркі складалі 20-30 тысяч рублёў, то пяць год назад яны дасягнулі ўжо 2 мільёнаў 200 тысяч рублёў. Рэкордным аказаўся даход гаспадаркі ў 1976 годзе — каля чатырох з паловай мільёнаў рублёў, пры тым чысты даход — адзін мільён 175 тысяч. У калгасе збіраюць цяпер з кожнага гектара па 50-53 цэнтнеры збожжа, сярэднія надоі малака ад каровы дасягнулі 4 550 кілаграмаў.

А вось як павялічвалася аплата пра-

(Працяг на стар. 2)

*„Аснежыцкі" дае дзяржаве не толькі хлеб, але і мяса, і малако.*



# Фальклор і літаратура

Польскі літаратуразнаўца і фальклярыст **Юльян Кшыжаноўскі** належыць да ліку тых нешматлікіх вучоных, якім удалося плён свайго працавітага жыцця амаль поўнасцю змясціць у завершаных манументальных працах. Беручы ў рукі яго *„Гісторыю польскай літаратуры“*, *„Сістэматычны паказальнік польскай народнай казкі“*, *„Разумнай галаве доўга талкаваць не прыходзіцца“*, *„Слоўнік польскага фальклору“* ці іншыя працы, заўсёды астаешся пад вялікім уражаннем не толькі незвычайнай эрудыцыі іх аўтара, але і аграмаднага тэрытарыяльнага і часовага абсягу яго даследаванняў — аб'ектам іх з'яўляюцца фальклор і літаратура ўсяе Еўропы на працягу звыш дзвюхтысячагадовай іх гісторыі. Такі ж самы характар мае і вышаўшы ў канцы 1977 года аб'ёмам у амаль тысячу старонак зборнік **„Паралелі“***), у які ўвайшлі нарысы аб радаводзе розных сюжэтаў і матываў у літаратуры і фальклоры польскага і іншых еўрапейскіх і пазаеўрапейскіх народаў.

Надта ж цікавая гісторыя ўзнікнення „Паралеляў“. Іх першае выданне з 1935 г. змяшчала ўсяго дваццаць нарысаў, другое з 1961 г. мела іх ужо сорак, а цяперашняе, трэцяе — аж шэсцьдзесят пяць. Значыць, яны паўставалі паступова і паволі, няспынна разрасталіся ўглыб і ўшыр. І несумненна, калі б здароўе дазволіла Ю. Кшыжаноўскаму яшчэ пажыць і папрацаваць — ён памёр у палове мінулага года — наступныя выданні „Паралеляў“ узбагаціліся б новымі каштоўнымі нарысамі. Але і ў такім выглядзе, у якім пакінуў іх нам аўтар, яны з'яўляюцца дасканалым прыкладам навейшай кампаратыстыкі. І як трэба было спадзявацца, у зборніку не мала нарысаў, якія кранаюць таксама беларускую праблематыку. Знаходзім яе перш за ўсё там, дзе вучоны аналізуе творчасць А. Міцкевіча (*„З фальклорных матываў у Міцкевіча“*, *„Пра народнасць Міцкевіча“*, *„Народнасць у „Дзядах, частка III“*), у У. Сыракомлі (*„Узнагарода і пакаранне за той самы ўчынак“*), І. Ходзькі (*„Анекдоты збіральніка ахвяраванняў на царкву Ігната Ходзькі“*) і іншых аўтараў, жыццё і творчасць якіх тэрытарыяльна і тэматычна адносяцца да беларускіх земель. Але не толькі, бо ў зборніку знаходзім шэраг нарысаў, што хоць засяроджваюць увагу на постацях і падзеях, непасрэдна не звязаных з Беларуссю, але пакінулі ў яе фальклоры і літаратуры адметны след. Возьмем хоць бы паралель дваццаць дзевятую *„Канёўскі староста ў народнай традыцыі“*. У ёй разглядаецца постаць украінскага магната-скандаліста Мікалая Васіля Патоцкага (1712-1782) і апладатвараюцца разважанні аб тым, у якой меры незвычайныя ўчынкі гэтага вяльможнага самадура маглі ўздзейнічаць на паўстанне шматлікіх анекдотаў, легенд і народных песень у трох суседніх народаў: украінскага, польскага і беларускага. Неабходна тут прыгадаць рассыпаную па ўсіх беларускіх землях народную баладу аб прыгажуні Бандароўне, загубленай магнатам Патоцкім. Як вядома, яна лягла ў аснову папулярнай паэмы Я. Купалы *„Бандароўна“*. Цікава, што гэтая народная балада і па сённяшні дзень бытуе на Беласточчыне (глядзі: *„Ніва“* ад 14 сакавіка 1976 г.). Ці возьмем паралель шэсцьдзесят першую *„Неспадзяванка“ або незвычайная кар'ера мазавецкага падання“*, дзе паддаецца аналізу вандроўны сюжэт забойства бацькамі ці бліжэйшымі родзічамі сына альбо брата, што вярнуўся з далёкага краю з вялікімі грашмі. Дарэчы, казка з такім матывам занатавана таксама і на Беласточчыне (глядзі *„Беларускі каляндар на 1961 год“*, стар. 219-221).



Фота аўтара

Словам, не будзе перабольшаннем, калі заўважым, што „Паралелі“ Ю. Кшыжаноўскага належаць да тых фундаментальных прац, без якіх ніводзін даследчык сувязей фальклору з літаратурнай творчасцю не толькі ў славянскіх народаў абысціся аніяк не можа.

**Мікалай Гайдук**

*) Krzyżanowski Julian, Paralele. Studia porównawcze z pogranicza literatury i folkloru, W-wa 1977.

# Ад родных ніў

### ВЯСЁЛАЯ ДРУЖЫНА

*Вокам кінеш — стаіць хата,*
*Так на погляд не багата.*
*Зато весело ў той хаце,*
*Усё ля печкі топча маці.*
*Бацька выцягнуўсь на ложку,*
*Падрамаці любіць трошку.*
*Дзеці глядзяць тэлевізар,*
*Бабка сочыць, як рэвізар.*
*Час адмераць часы весяць,*
*Дзед з катом ляжайку месяць.*
*Сын з сябром сеў выпіваці,*
*Мусіць, будуць ўжо спяваці.*
*Дачка ў люстры бы пружына,*
*Ну і згодна ўся дружына.*
*Раптам спор падняўся ў хаці:*
*Хто йдзе есць каровам даці.*
*Дзеці кажуць: мы малые,*
*А дзед з бабкай: мы старые.*
*Бацька штосьці расстагнаўся,*
*Сын на добра расспяваўся.*
*Сталі раіць, меркаваці*
*І сказалі: няхай маці.*
*Бацька сонны дадаў ціха:*
*Спяшы, маці, што за ліха.*

**Л. Леўшук**
Циванюкі

# Наша галерэя



*Зімовая імпрэсія.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

М. ШАХОВІЧ

# З народных гаворак

**будь-будь** — часціца, якая выступае ў значэнні прыслоўя. Такое нешта прыгожае, што і пазайздросціць варта. Вымалюю собіе хату будь-будь.

**здобны** — прыметнік, які стаіць пры назоўніку „пірог“ і паказвае на яго якасць і часткова смак. Гаворыць, што пірог печаны на малацэ і з рознымі дадаткамі ды з'яўляецца салодкім. Такіх здобных пірогуов напэкла і думаетэ йелі. Гэн половіна позасыхала.

**млюон** — кіёчак з цвіком, або нейкім другім вастрыём, які служыў пры катанні на каньках ці саначках. Тату! А Іван знов млюона ад мэнэ одобрав. Своёго возьмэ сховае, а мойім млюоном йездіт.

**на двуор** — выходзіць за сваёй патрэбай. Дэ тут у вас на двуор выходят?

**отчыканіті** — зрабіць вельмі прыгожа, густоўна апрануцца. Ну і отчыканіўся ты, хоч в дівоснубэ йеть.

**тіп-топ** — прыблізна тое, што і „будь-будь“, толькі, што адносіцца да дзеяслова закончанага трывання. Отчыканів ты собіе хату тіп-топ.

*(Сакі, гміна Бельск)*

**УВАГА!**

# Беларускі каляндар на 1978 год

усяго за 20 злотых вы можаце набыць у

**Беластоку:** — сакратарыяце Галоўнага праўлення БГКТ; вул. Варшаўская 11, у часе ад 8 да 15 гадзіны;

— клубе БГКТ, вул. Варшаўская 11, у часе ад 17 да 22 гадзіны;

— сакратарыяце рэдакцыі „Нівы“, Дом прэсы, вул. Весялоўскага 1, у часе ад 8 да 15 гадзіны;

**Варшаве** — у клубе БГКТ, вул, Сенатарская 8;

**Бельску** — у п. Бжазоўскай у Бельскім доме культуры;

**Гайнаўцы** — у клубе БГКТ, вул. Вызвалення 6;

**Гданьску** — у клубе БГКТ, вул. Длугі Тарг 8-10;

— Бельскім і Гайнаўскім агульнаадукацыйных ліцэях з беларускай мовай навучання;

— гмінных зборных школах і зборных васьмікласных школах, у якіх выступае навучанне беларускай мовы;

— актывістаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Гарадку у п. Марыі Лукошык, у Міхалове ў п. А. Саковіча, у Мілейчыцах у М. Вішэнкі;

Галоўнае праўленне БГКТ ахвотна высылае **„Беларускі каляндар на 1978 год“** за паштовым залічэннем. Запатрабаванні ў лісце кіруйце па адрасу: Zarząd Główny BTS-K, Białystok, ul. Warszawska 11.

**Справы набыцця „Беларускага календара на 1978 год“ не адкладайце, бо выйшаў ён невялікім тыражом, усяго ў 4 000 экземпляраў, і спозненым можа яго не хапіць.**

# Беларуская літаратура

АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

## Нашаніўская пара

### ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА XIV

**Праблемы старасці.** Апавяданне „Дудар“ мае падзагаловак „Апавяданне старога дзеда“. Ужо хаця б з гэтага падзагалоўка відаць, што маем тут дачыненне з творам, звязаным са старасцю. Аднак у творы толькі апавядальнік належыць да старога пакалення. Апавядае ён аб здарэнні, якое мела месца многа гадоў назад, гэта значыць у перыяд яго маладосці. Змест твора мае ў сабе казачны матыў. У беларускіх казках вельмі часта выступае сюжэт музыкі, які быў запрошаны пераапранутымі за панічоў д'ябламі на чартоўскае ігрышча. Да гэтага сюжэта звярнуўся Бядуля ў сваім апавяданні. Трэба сказаць, што яго твор па сутнасці пазбаўлены арыгінальнасці і верна паўтарае фальклорны аўтэнтык. Калі разглядаем яго ў раздзеле „Праблемы старасці“, дык робім гэта таму, што ў ім выступае адна з характэрных старых постацей. Безыменны герой твора, так як многія старэйшыя людзі, схільны міфалагізаваць мінулае. Апавядае ён з дэталямі адну гісторыю, якая з'яўляецца, бадай, усяго толькі прадуктам п'янага ўяўлення. Другой характэрнай для старых людзей рысай, выступаючай у творы, з'яўляецца частае карыстанне героем з прыказак і прымавак, а таксама з песеннага куплету. Апавяданне „Дудар“ належыць да прыгодніцкай прозы і, нягледзячы на недахоп арыгінальнасці, павінна быць ацэнена станоўча. Належыць яно да гатункаў моцна „сучасных“. Як вядома, для многіх сучасных празаікаў характэрна аб'ядноўванне ў творы элементаў рэальных і фантастычных. З такой манерай маем дачыненне і ў „Дудары“,

Адным з найбольш абшырных і, несумненна, найбольш глыбокіх дарэвалюцыйных апавяданняў, прысвечаных старасці, з'яўляецца „Туга старога Міхайлы“.

У гэтым творы пісьменнік поўнасцю адхіляецца ад характэрнай для яго некаторых твораў лёгка іранічнай трактоўкі старасці. З іранічным матывам маем дачыненне і ў „Летапісцах“ і „У горы ўдавы Сымоніхі“, і ў „На каляды к сыну“ і ў „Дудары“. Пісьменнік поўнасцю адмаўляецца ад такой манеры ў „Тузе старога Міхайлы“. Новым гэтага твора праяўляецца ў тым, што герой твора — стары чалавек Міхайла паказаны на фоне грамадска-гістарычных падзей. Гэтым фонам з'яўляецца ў даным выпадку першая сусветная вайна. Апавяданне пачынаецца прыродаапісальнай імпрэсійнай уверцюрай. Далей падаюцца інфармацыі аб галоўным героі Міхайле, якому царскія ўлады мабілізавалі ў армію ўсіх трох сыноў. Беспаспяховае чаканне весткі ад сыноў складае змест жыцця Міхайлы. „І чакае стары Міхайла вестак ад сыноў... Не есць, не п'е, усё чакае. Спаць перастаў. Праца з рук валіцца. Маўкліва пазірае ён на шырокі гасцінец.

...Сыноў віхор панёс. Сыноў мора глынула...“

У сярэдзіне твора наступае нечаканы сітуацыйны і ідэйны паварот. Міхайла становіцца антыцарскім „дзеячом“. Заклікае ўсіх людзей запатрабаваць ад цара звярнуць мабілізаваных. Учынак Міхайлы мае характар стыхійнага, не столькі свядомага, колькі інстынктоўнага бунту. Вынікам гэтага бунту з'яўляецца арышт Міхайлы. Твор канчаецца сцэнай смерці Міхайлы ў астрозе. Характэрным фабулярным і ідэйным прыёмам у апавяданні з'яўляюцца сны Міхайлы, пры дапамозе якіх пісьменнік выказвае істотныя думкі, ідэі і пастулаты.

Амаль усе выступаючыя ў творчасці Бядулі старыя людзі гэта асобы пакрыўджаныя і чагосьці шукаючыя. Бадай што з найглыбейшай праявай гэтай крыўды і пошукаў маем дачыненне ў „Тузе старога Міхайлы“. Твор гэты як бы робіць вывады з усёй дарэвалюцыйнай прозы Бядулі. Істота іх у тым, што даведзены да канчатковасці стары вясковы чалавек узнімаецца да бунту.

СЯБРЫ „НІВЫ"



# Васіль Орда

Каму ў Орлі і яе ваколіцах не знаёмы **Васіль Орда?** Няма ж там ніводнае хаты, каб не завітаў ён хоць раз у тыдзень з лістом ці часопісам, грашовым пераводам ці газетай. А колькі ўсяго гэтага разнёс ён у сваёй агромністай торбе за 26 год працы пісьманосцам — цяжка злічыць. Праца ж гэтая не лёгкая. Кожны дзень ад восьмай гадзіны раніцы і да пятай-шостай гадзіны вечара ўвесь час не толькі што на нагах, але вечна ў спешцы. З акуратна заадрасаваным лістом ці газетай — гэта проста. Але вось калі трэба разнесці пенсіі прастарэлым сялянам ці грошы за малако, тады напрацуешся не на жарт, бо даводзіцца быць і касірам, і бухгалтарам, і лістаношам у адной асобе ды ўсё даглядзець трэба, вядома ж, гэта грамадскі грош. Раён працы В. Орды не належыць да лёгкіх: ёсць многа хутароў, параскіданых па палях. Пераважна ўсё трэба пехатою, зрэдку толькі можна скарыстацца з матаролера. Але В. Орда любіць сваю працу, і гэтая любоў перадалася ўсёй яго сям'і, доказ чаму тое, што яго дачка Оля таксама выбрала сабе працу ў сувязі. Яна ўжо трэці год працуе на міжгародняй тэлефоннай станцыі ў Беластоку.

Васіль Орда з'яўляецца не толькі салідным пісьманосцам, але і актыўным пашыральнікам чытальніцтва газет і часопісаў. У яго раёне людзі выпісваюць каля 1000 экземпляраў розных выданняў, хоць там жыве ўсяго каля чатырохсот сямей. У 1977 г. там было 135 падпісчыкаў нашага тыднёвіка, а на бягучы год іх ужо 144 і ўсё гэта гадавая падпіска. Па колькасці падпісчыкаў „Нівы" Васіль Орда заняў у мінулым годзе другое месца сярод пісьманосцаў Беласточчыны, і наша рэдакцыя прызнала яму спецыяльную ўзнагароду.

**(іс)**

# БУДУЮЦЬ ЦЭНТР ЗДАРОЎЯ

З таго часу, калі сяляне пачалі карыстацца бясплатнай лекарскай апекай, у старым будынку гміннага цэнтра здароўя ў Заблудаве стала цесна. Прыбыло пацыентаў, спатрэбіўся значна большы будынак ды і спецыялістаў было скупа. Хворыя часта былі вымушаны ездзіць у Беласток, а там у лекараў і сваіх пацыентаў хапае. Узнікла думка, каб пабудаваць новы цэнтр здароўя. Пачатак быў зроблены ў 1975 годзе. Нефаховыя работы былі зроблены рабочымі мясцовых прадпрыемстваў, сялянамі, школьнікамі. Калі трэба было, дык працавалі кожную нядзелю. Калі пачалі расці сцены будынка, зноў быў аб'яўлен грамадскі пачын. На працу выйшлі члены грамадска-палітычных арганізацый. Асабліва ўдалы быў партыйны пачын. Потым не раз прыходзіла моладзь. Ёй да спадобы было працаваць ля канвеера, падаваць цэглу.

Цяпер у новым будынку ёсць ужо вокны, дзверы, сходы. Спорна ідзе праца ў рабочай брыгадзе рамонтна-будаўнічага прадпрыемства пры Ваяводскай бальніцы, дзе лечаць туберкулёз лёгкіх. На месцы сустрэлі мы і кіраўнікоў: будовы і рамонтна-будаўнічага прадпрыемства — Зыгмунта Камінскага і Аляксандра Ахрымюка. Хваляць яны вялікую дапамогу тутэйшага грамадства. Неўзабаве пачне дзейнічаць кацельная, і тады можна будзе ўзяцца за заканчэнне будынка, маляванне. Навесну рабочыя будуць тынкаваць, пракладаць дарожкі, тратуары, будаваць агароджу.

Са справамі, звязанымі з пабудовай новага цэнтра здароўя, знаёміў нас кіраўнік цэнтра доктар Мацей Заблоцкі. Ён ужо 25 гадоў прымае пацыентаў у гэтым пасёлку. Выконвае адказныя грамадскія функцыі: ён ваяводскі радны, старшыня гміннага камітэта ФАН, старшыня бацькоўскага камітэта ў школе.

— Новы цэнтр здароўя будзе змяшчаць шматлікія амбулаторыі, — кажа, паказваючы на новы будынак, доктар. — І так, будзе тут некалькі амбулаторыяў, перш за ўсё дзве-тры агульныя, дзве педыятрычныя, адзін гінекалагічны і два стаматалагічныя кабінеты (у адным з іх будуць рабіць пратэзы), святліца, асобны кабінет, у якім медсёстры будуць рабіць хворым уколы. Стары будынак таксама будзе вельмі прыгодны для стаматалагічнай майстэрні і для рэнтгена, а ў дабудоўцы, якую здаўна плануем, пасяляцца сем'і лекараў. У будучыні нашыя стаматолагі будуць абслугоўваць жыхароў шырокай акругі, бо нават з Міхалова, Фальваркаў Тыльвіцкіх, Кур'янаў і іншых вёсак.

Доктар Заблоцкі бачыць рэальныя магчымасці закончыць пабудову цэнтра ў ліпені гэтага года. І трэба верыць, што так і будзе. Сам доктар пра ўсё тут клапоціцца: і пра цэмент, і пра машыны, сам склікае людзей на пачын. Не толькі не шкадуе свайго свабоднага часу, але нярэдка і свайго граша.

— Нам вельмі прыдаліся б яшчэ дзіцячыя яслі. Столькі матак працуе, — гаворыць ён. — На адным толькі гарсэцярскім швейным прадпрыемстве працуе каля 100 жанчын, а колькі на калетнічым (скуранай галантэрыі), а на іншых... І ў іх малыя дзеці. А догляд вядома які. Пра дзяцей мы павінны асабліва дбаць, каб яны добра развіваліся, раслі здаровымі і дужымі.

Жыхары Заблудаўскай гміны неўзабаве дачакаюцца лепшых умоў да лячэння хвароб. І яны ім належацца заслужана. Яны тэрмінова даюць свае ўзносы на НФОЗ, ім не трэба прыпамінаць аб гэтым грамадскім, высокачалавечым абавязку.

**Янка Цялушэцкі**



**Гарадскія замалёўкі.**

*Бальніца у Сямяцічах.*

*Фота В. Рудчыка.*

# НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## ПРАВАФЛАНГАВЫЯ БЕЛАРУСКАГА СПОРТУ

Прэзідыум федэрацыі спартыўных журналістаў БССР падвёў вынікі пераднавагодняга конкурсу „Дзесяць лепшых спартсменаў і спартсменак Беларускай ССР 1977 года".

Лаўрэатамі года сталі фехтавальшчыкі Алена Бялова і Аляксандр Раманькоў (абодва — Мінск, „Дынама").

У „дзесятку" таксама ўключаны (у алфавітным парадку) Уладзімір Алейнік (Мінск, „Спартак") — скачкі ў ваду, Аляксандр Газаў (Мінская вобласць, Савецкая Армія) — стралковы спорт, Анатоль Гантварг (Мінск, Савецкая Армія) — міжнародныя шашкі, Аляксандр Грыгор'еў (Мінск, Савецкая Армія) — лёгкая атлетыка, Уладзімір Камінскі (Мінск, „Спартак") — веласіпедны спорт, Уладзімір Лапіцкі (Мінск, „Дынама") — фехтаванне, Уладзімір Парфяновіч (Мінск, „Чырвоны сцяг") — веславанне на байдарках, Віктар Торшын (Мінск, Савецкая Армія) — стралковы спорт, Сяргей Харэцкі (Мінская вобласць, Савецкая Армія) — парусны спорт; Ламара Бейдзіна (Мінская вобласць, Савецкая Армія) — стралковы спорт, Наталля Барадзіна (Мінск, „Чырвоны сцяг") — тэніс, Ірына Бурая (Мінск, ДТСААФ) — падводнае плаванне, Надзея Зялова (Мінск, „Буравеснік") — горналыжны спорт, Галіна Крыленка (Мінск, „Спартак") — мастацкая гімнастыка, Таццяна Палюх (Віцебск, „Чырвоны сцяг") — скачкі на батуце, Інеса Патэс (Мінск, „Працоўныя рэзервы") — водналыжны спорт, Вольга Рабіновіч (Мінск, „Спартак") — мастацкая гімнастыка і Людміла Сахненка (Мінск, „Буравеснік") — міжнародныя шашкі.

# З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

## ДОМ ПРЫРОДЫ

Бліжэй пазнаёміцца з насельнікамі лясоў Беларусі дапамагае жыхарам і гасцям Барысава Дом прыроды, які нядаўна адкрыты ў гэтым горадзе.

У трох прасторных і светлых залах сабраны калекцыі чучалаў звяроў і птушак, што жывуць на тэрыторыі Беларусі. Тут можна ўбачыць рэдкіх птушак — чорнага бусла, фазана, глушца, сустрэць касалапага мішку, зайца-беляка, хітрую лісіцу з лісянём, злога ваўка, волата-зубра... Размясціліся яны на спецыяльных падстаўках, упрыгожаных дрэвамі, кустамі, травой, імхом. Аб жывёльным свеце расказваюць таксама гравюры, пано, пейзажныя карціны. Тут жа абсталяваны зала для кіналекторыя аб прыродзе, бібліятэка.

## УЗЯТЫ НА ЎЛІК

У Зэльвенскім раёне жыве прыкладна 20 сем'яў баброў. Пушныя звяркі ўзяты пад строгі кантроль, аб іх размнажэнні клапоцяцца аматары прыроды. На берагах ціхай рачулкі ў Галынкаўскім сельсавеце мясцовыя паляўнічыя ахоўваюць 8 сем'яў баброў. Сустракаюцца яны і на рэках Зяльвянка, Арцюхоўка і некаторых іншых.

ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „НІВУ"!




(Працяг са стар. 1)

бач з Бандарамі. Ён сваім знешнім выглядам нагадвае тыя вялікія курганныя насыпы, якія вучоныя называюць княжацкімі магіламі. Яго яшчэ не кранула лапата археолага, і таму цяжка меркаваць, ці пад ім спачываюць астанкі ваяўнічых готаў, што ішлі сюдою з пабярэжжа Балтыкі на ўзбярэжжа Чорнага мора ў II-IV стагоддзях нашай эры, ці знатнага яцвяжскага ваяўніка, загінуўшага ў бою з русамі недзе ў X-XII стагоддзях, ці, урэшце, невядомага рускага князя, які аддаў жыццё ў змаганні з гэтымі яцвягамі. Але сённяшнія Бандары трэба звязваць з больш блізкім да нашых часоў паўстаннем недзе ў канцы XV стагоддзя воласці з асяродкам у Ялоўцы. Воласць была „гаспадарскай" маёмасцю, гэта значыць, належала вялікаму князю літоўскаму і каралю польскаму. Пасля таго, як 21 снежня 1545 года кароль Зыгмунт Аўгуст па просьбе каралевы Боны прызнаў Ялоўцы прывілей на самакіраванне па магдэбургскаму праву, наступілі часы паскоранага гаспадарчага развіцця гэтых ваколіц. Відаць, тады і былі заснаваны над ракою Нарвай паселішчы рамеснікаў, якія за карыстанне зямлёй выконвалі розныя павіннасці для „гаспадарскай" воласці ялоўскай: пастаўлялі бандарныя вырабы, займаліся гарбарствам, лоўляй рыбы, выплаўлялі з балотнай руды жалеза. І так, сёння маем па-суседску з Бандарамі вёсачкі Рыбакі, Рудню, Гарбары. Цікава, што памяць пра сваю прыналежнасць да „гаспадарскіх людзей" бандарцы захавалі ў адносінах да сваіх суседзяў, сялян з-за ракі Нарвы, называючы іх „шасцідзённікамі". Як вядома, гэтыя сяляне да рэформы 1861 г. былі падданымі пана Білінскага (уладальніка вёскі Лука) ці Залатніцкага (уласніка Семяноўкі) і працавалі на паншчыне па шэсць дзён у тыдзень. А і колішняя рамесніцкая традыцыя тут не загінула і да нашых дзён.

Як прыгадвае сямідзесяцігадовы **Міхал Казбярук**, у Бандарах здаўна людзі займаліся бандарным рамяством. Сам ён прывучыўся гэтай справе ад сваіх бацькі і дзеда. У міжваенны час і яшчэ ў першыя гады народнай улады вырабляў розныя *балеі, боечкі, вёдры, дзежкі, цэбры* і іншы посуд. Прадаваў яго па навакольных вёсках і мястэчках. Асабліва вялікі попыт на гэтыя вырабы быў па больш заможных сёлах Гайнаўшчыны і Бельшчыны. Потым рабіў і прадаваў па вёсках *рашоты і сіты*, а яшчэ не так даўно — *берды* вясковым ткачыхам. Бандаркай займаліся таксама **Баршчэўскія** і **Назаркі**. Наогул, людзі тут майстраватыя і працавітыя: яшчэ гадоў дваццаць таму ўсюды на рачулках ды ручаях шумелі *вадзяныя млыны*, а *вятрак* І. Палецкага ў Гарбарах яшчэ і цяпер працуе. Калісьці не абы-якой падпорай у гаспадарцы была рыба: усю большую вазілі тутэйшыя рыбакі на продаж у Міхалова, Гарадок, Крынкі, а толькі самая дробязь траплялась на ўласны стол. Кемлівыя і ахвочыя былі тут і да „арэлькі", г.зн. *сплаву дрэва* па Нарве. Пасы-плыты пераважна бралі каля Боркаў у Белавежскай пушчы і гналі аж у Тыкоцін. Найзручней было сплаўляць дрэва вясной і восенню, калі рачное русла было поўнае вады, але яна з яго не выступала. Цяжкая і вельмі небяспечная для здароўя была гэта праца — брысці па пояс у ледавітай вадзе. Але жыць жа трэба было, і людзі ні на што не глядзелі, каб толькі нейкі грош у хату прынесці.

У міжваенны час арэлі-плытнікі вялі *доўгую і ўпартую барацьбу* з купцамі-прадпрымальнікамі за паляпшэнне ўмоваў свае працы, часта і доўга баставалі. Гэтай барацьбой кіраваў выдатны грамадскі дзеяч, камуніст **Мікалай Боўтрык** з суседняй вёскі Боўтрыкі.

Ён жа быў адным з арганізатараў партызанскага руху ў гэтых ваколіцах у часе нямецкай акупацыі. Партызаны мелі тут сталую падтрымку, а сляды пасля іх зямлянкі яшчэ і да сёння захаваліся ў лясным урочышчы **Гарабіннік**, што непадалёк вёскі Рыбакі. Немцы і іх памагатыя высачылі і расстралялі двух партызанскіх сувязных з Бандароў — **Міхала і Васіля Міруцёў.**

Ужо пры народнай уладзе з Бандароў выйшла шмат адукаваных людзей, якія цяпер працуюць на розных пасадах, але самыя відныя з іх — гэта людзі літаратурнай працы.

Адсюль паходзіць **Уладзімір Казбярук** — савецкі літаратуразнаўца, старшы навуковы супрацоўнік у Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларускай ССР, аўтар кніг: „Якуб Колас у школе" (1967 г.), „Ступені росту" (1974 г.) і іншых. Родам з Бандароў таксама і вядомы беларускі паэт і літаратуразнаўца **Аляксандр Баршчэўскі,** які з'яўляецца загадчыкам кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага уні-

# У ДРУЖБЕ З ЛЕСАМ

Кастусь Брысюк з Войнаўкі, што ў гміне Дубічы Царкоўныя, вядомы ў сваёй вёсцы і ваколіцы як партыйны і грамадскі дзеяч. Ён сакратар мясцовай падставовай партыйнай арганізацыі, якая займаецца ўсімі праблемамі сваіх аднавяскоўцаў. Ён з'яўляецца членам гміннага і ваяводскага камітэтаў ПАРП, ён таксама гмінны радны і ўзорна выконвае гэтыя функцыі. Яго грамадская і партыйная актыўнасць, яго ініцыятыўнасць і тактоўнасць вядомы ў асяроддзі, і таму заўсёды падчас выбараў на сходах ўпамінаецца яго прозвішча.

Але ў гэтым артыкуле мы хочам падкрэсліць той факт, што Кастусь Брысюк гэта любіцель лесу, яго сябра і прыяцель. Яго часта можна спаткаць у Белавежскай пушчы са стрэльбай на плячах, альбо развозячага корм для звяроў, калі ў зімовы перыяд снег прыкрые зямлю і лясным жыхарам цяжка даграбсціся да травы, да карэнняў тых раслін, якія з'яўляюцца іх ласункамі. Ён дапільноўвае, каб пушчанская жывёла не толькі не галадала, але таксама каб яе не знішчалі браканьеры. Праўда, гэтыя заняткі вынікаюць з яго службовых абавязкаў, паколькі ён з'яўляецца стражнікам у паляўнічым гуртку „Пушча". Ён і сам заміласваны паляўнічы, які перажыў шмат паляўнічых прыгод і многа ведае цікавага аб дзікіх жыхарах Белавежскай пушчы. Завёўшы з ім размову на гэтую тэму, можна даведацца ад яго аб жыцці-быцці лясных звяроў, аб іх паводзінах і нават псіхіцы. Можна даведацца таксама аб цікавых здарэннях падчас палявання. Вельмі цікава пабываць у яго хаце. Там на ўсіх сценах убачыце вы рогі аленяў і казлоў, аграмадныя іклы дзікоў, выпханых птушак, а на падлозе звярыныя скуры.

Любоў да лесу прымусіла Кастуся Брысюка пайсці вучыцца ў завочны лясны тэхнікум у Белавежы. Пройдзе яшчэ тры гады, атрымае ён кваліфікацыі ляснічага і тады поўнасцю сваё жыццё звяжа з лесам.

А пакуль што Кастусь Брысюк з'яўляецца перадавым гаспадаром сваёй вёскі Войнаўка, застрэльшчыкам усяго новага. Жыве ён культурна і заможна. Уласная легкавая машына значна наблізіла яму горад Гайнаўку і іншыя гарады, у якія яму даводзіцца ездзіць па сваіх і грамадскіх справах.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



# ФАЛЬКЛОР

## РЭКРУЦКАЯ




*Там у полі вярба,*
*пад вярбою вада,*
*там дзеўчына прыкрасная,*
*ой, там іваданьку брала,*
*там дзеўчына прыкрасная,*
*ой, там ваданьку брала.*
*Дзеўка воду берэ,*
*казак коні ведзе,*
*пытаецца дзеўчынэнькі:*
*— Куды дарожанька ідзе?*
*Пытаецца дзеўчынэнькі:*
*— Куды дарожанька ідзе?*
*— І сюда ана ідзе,*
*і туда ана ідзе,*
*аж да тое крынічэнькі,*
*там, дзе войско стаяло,*
*аж да тое крынічэнькі,*
*там, дзе войско стаяло.*

*А там старшы стаяў,*
*дробны лісцік пісаў,*
*маладзенькіх навабранчыкаў*
*па шарэнгах расстаўляў,*
*маладзенькіх навабранчыкаў*
*па шарэнгах расстаўляў.*
*— Ой, вы, хлопцы мае,*
*навабранцы мае,*
*спойце, спойце тую песеньку,*
*каб спадабалася мне,*
*спойце, спойце тую песеньку,*
*каб спадабалася мне.*
*Хлопцы ў шарэнгу сталі,*
*громкім голасам спелі,*
*дробненькімі слёзонькамі*
*ўсю дарожку скрапілі,*
*дробненькімі слёзонькамі*
*ўсю дарожку скрапілі.*

Ад Яўгінні Аліхвер, 1938 года нараджэння, вёска Старое Ляўкова гм. Нараўка, запісаў 26 лістапада 1977 года Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

# 20 ГОД СОЛТЫСАМ



Часта солтыса называюць гаспадаром вёскі. Адольф Вацэвіч з вёскі Зверкі (гміна Заблудаў) ужо амаль 20 год з'яўляецца солтысам. Амаль 20 год ён арганізоўвае вясковыя сходы, прымае ад гаспадароў падаткі, выдае пасведчанні аб паходжанні жывёлы, калі сяляне вязуць яе на рынак, ходзіць на гмінныя сходы і нарады, а таксама іх у вёсцы арганізоўвае. Мае шмат абавязкаў і гэтай ганаровай функцыі прысвячае шмат часу. А калі выконвае гэтую функцыю 20 год, дык напэўна паважаюць яго аднавяскоўцы.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

версітэта, свае лірычныя вершы ён выдаў у зборніках „Белавежскія матывы" (1962 г.), „Жнівень слоў" (1967 г.) і „Мой бераг" (1975 г.), яго пяру належаць таксама паэма „Мікола", апавяданне „Лянарда", п'еса „Гарадскія госці" і іншыя творы. Для чытачоў „Нівы" ён знаёмы і па гісторыі беларускай літаратуры, што сістэматычна друкуецца на старонках нашага часопіса. Доўгі час працаваў журналістам у „Ніве" **Васіль Баршчэўскі,** аўтар шэрагу апавяданняў з мінулага і сённяшняга Бандароў і іх ваколіц, цяпер ён узначальвае завадскую газету на тэкстыльным камбінаце Фасты.

Сённяшнія Бандары хоць і жывуць пад уражаннем паўстаючага Семяноўскага мора, але пра свае гаспадаркі не забываюцца. Асабліва добра тут развіваецца гадоўля малочнай жывёлы і свіней. Самым перадавым гадоўцам з'яўляецца **Фёдар Міруць** — у яго і ў хлявах поўна належна дагледжанага племяннога дабытку, і на полі добрыя ўраджаі і будынкі — аж міла глянуць.

Што ж, спецыяльна запрашаць у Бандары няма патрэбы, я ўпэўнены, што вы іх і так неўзабаве наведаеце. Няхай толькі ўздымецца блакітная хваля на Семяноўскім моры...

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

# ТАК БЫВАЕ... МАМА

Тоня была падобная на бацьку. І валасы ў яе такія ж буйныя і чорныя, і вочы вялікія, і бровы шырокія, і голас такі ж, як у бацькі. Цюцелька ў цюцельку бацька, гаварылі аднавяскоўцы. Не было ёй суджана бачыць бацьку. Не знала яна бацькоўскіх пяшчот і ласкі. І рабілася ёй вельмі крыўдна, калі яе сяброўкі расказвалі аб сваіх „папках", аб іх сардэчнасці, клапатлівасці, чуллівасці. Пасля такіх гутарак прыходзіла яна дамоў і прасіла маці, каб яна штонебудзь расказала пра бацьку.

Пасля шматлікіх такіх размоў з маці, Тоня ведала ўсё падрабязна аб бацьку. Ведала аб тым, што бацька загінуў на вайне ў 1942 годзе, якраз у той самы дзень, калі яна прыйшла на свет. І вось таму ў яе дзень нараджэння маці, прыпадносячы Тоні кветку, гаварыла: „Тоня, у нас сёння дзве гадавіны, адна — твайго нараджэння, а другая — дзень смерці твайго бацькі". На ўсё жыццё ў яе памяці засталося тое, што маці, падрыхтаваўшы ўрачысты абед з нагоды дня яе нараджэння, запрашала найбліжэйшых і заўсёды ставіла запасную талерку і клала каля яе лыжку і відэлец ды пакідала адно, паводле яе, самае ганаровае месца для таго, хто быццам бы меў прысці.

Калі Тоні мінула 17 год, падружыла яна з Міхасём. Хутка і маткай пачаў цікавіцца старэйшы чалавек, у якога памерла жонка. Яна аставіла маленькую дзяўчынку Рытку.

І маці і дачка хадзілі на спатканні са сваімі ухажорамі. У той самы дзень маці і дачка выйшлі замуж і гулялі на супольна арганізаваным вяселлі. А пасля вяселля маці пайшла жыць на кватэру другога свайго мужа, а на кватэру да Тоні перайшоў жыць Міхась. Жылі яны з Тоняй згодна, шчасліва.

А ў маці далейшае жыццё склалася няўдачна. Нягледзячы на тое, што стала яна для Рыткі сапраўднай маці, муж часта запіваўся і скандаліў. Каб з п'яным не ўдавацца ў сварку, брала яна маленькую Рытку на рукі і ўцякала да сваёй дачкі. У хаце Тоні ўсе Рытку любілі і песцілі.

— Калі я нараджу дачку, таксама назавем яе Рыткай, — казала Тоня да свайго мужа.

Тоня хутка пайшла ў радзільны дом, нарадзіла дачку, якую назвалі Рытай.

Праз нейкі час і маці Тоні пайшла радзіць. Паявіўся на свет прыгажун Гена. І так, і маці і дачка пяшчотна пачалі выхоўваць малышоў, прысвячаць ім найбольш часу і ўвагі. Калі дзеці толькі пачалі хадзіць, Тоня зноў зацяжарыла і разам з мужам чакала павелічэння сям'і. Але ўсю гэтую радасць раптоўна абарвала няшчасце.

А здарылася гэта так. З далёкай мясцовасці сваякі запрасілі іх на вяселле. І сямейна было вырашана, што на вяселле паедуць муж і маці Тоні, а яна, цяжарная жанчына, зоймецца дзвюма Рыткамі і сваім маленькім брацікам Генай, якому было ўжо тры годзікі. І маці з зяцем паехалі. У дарозе здарылася катастрофа, у якой муж і маці Тоні загінулі. Здарэнне гэта ўзрушыла ўсіх родзічаў, знаёмых і суседзяў. А Тоня была так прыдаўлена горам, што на працягу адной ночы пасівела. На пахаванні найдаражэйшых ёй людзей — мужа і маці — два разы самлела, а назаўтра адвезлі яе ў бальніцу на заўчасныя роды. Сыночак Валодзя радзіўся жывы. Аказалася, што Тоня чалавек нязвыклы, моцны. Перанесла страшэннае няшчасце і змагла займацца штодзённымі справамі і дзецьмі. А клопатаў было ўсё больш і больш.

Яе айчым пачаў больш як раней запівацца, знайшоў каханку-п'яніцу, з якой замяняў на гарэлку маёмасць хаты. Рытка і Гена раслі недагледжаныя, недаеўшыя, брудныя. Тоня не магла знесці дзіцячай крыўды і забрала гэтых дзяцей да сябе. Стала апекавацца чацвярыма малышамі. З дапамогай прыйшлі людзі. Асабліва многа добрага зрабіла Тоні яе сяброўка Марыся, якая працавала ў сталовай у недалёкім мястэчку. У яе вялікую хату перабралася жыць Тоня з усімі дзецьмі. Разам яны з сяброўкай жылі, разам пасля працавалі ў сталовай, разам выхоўвалі дзяцей.

Час памаленьку загаіў душэўныя раны ў Тоні. Дзеці добра гадаваліся, хутка раслі, не былі дакучлівымі. Усе яны называлі Тоню сваёй мамай. Калі сталі хадзіць у школу, пачалі дапытвацца: „Мама, чаму ў нас дзве Рыткі, чаму адну ты інакш не ахрысціла?" Тоні заўсёды цяжка было адказваць на гэтыя пытанні і адказы былі наіўныя: „Знаеце, дзеці, калі пайшла я запісваць імя меншай Рыткі, зусім забылася, што ў нас ужо ёсць Рытка..."

Цяпер усе гэтыя дзеці ўжо дарослыя, пакончалі школы, усе працуюць. І ўсе прыходзяць да Тоні з радасцямі і нярадасцямі. Прыносяць ёй падарункі і яе родныя дзеці, і Гена з меншай, белай Рыткай, усе называюць яе мамай.

**Міхась Сваяк**

# ЦУДОЎНЫ ГОД

Новы год — новыя мары, новыя надзеі, новыя жаданні. Для іх новы год распачаўся намнога раней — у канцы жніўня разам з першым званком, які склікаў усю школьную сям'ю: і настаўнікаў, і вучняў. Мінулы год для пачатковай школы нумар 3 у Бельску Падляшскім быў сапраўды цудоўным годам. Прымалі вучні ўдзел у васьмі конкурсах і ў сямі выпадках дайшлі да ваяводскіх элімінацый, дзе занялі высокія месцы. Прыкладна, па біялогіі занялі ўсе тры першыя, а па гісторыі — другое і трэцяе. Усё гэта дзякуючы высокаму ўзроўню навучання. У сярэднім агульная ацэнка за мінулы год была аж 4,34.

Да цікавейшых відаў працы трэба аднесці „гелду думак". Паасобныя класы ў пачатку кожнага месяца ставяць перад сабой задачы, якія потым выконваюць. Гэтая форма актывізавала вучняў да самадзейнай працы.

Наступная справа — гэта збор макулатуры. Вучні сабралі аж 8 249 кілаграмаў, што ў пералічэнні на аднаго дало па 17 кілаграмаў. Апрача гэтага, прымалі ўдзел у капанні бульбы і пасадцы лесу, за што зарабілі 30 тысяч злотых. Прымалі ўдзел таксама і ў конкурсе СКО і занялі ў ваяводстве чацвёртае месца. Удзел у гэтым конкурсе прымаюць далей. Зараз маюць сто пяцьдзесят тысяч і плануюць заняць першае месца. А за ўдзел у конкурсе „Клуб адкрытых школ" атрымалі ў ваяводстве пахвалу і ўзнагароду дзесяць тысяч злотых з прызначэннем на набыццё турыстычных прылад.

Школа налічвае 480 вучняў і 21 настаўнікаў. Дзесяць настаўнікаў маюць вышэйшую адукацыю, а дзесяць яшчэ завочна вучацца, сямёра з іх заканчваюць ужо ў гэтым годзе. Дык пажадаем, каб і гэты год выпаў ім як найлепш, каб здзейсніліся ўсе іх мары і планы.

**Міхась Шаховіч**




*На Беласток награнулі нейкія нялюдскія істоты ды пачалі з'ядаць вулічныя тэлефонныя апараты. І то так хутка з гэтым спраўляюцца, што мясцовае тэлекамунікацыйнае ўпраўленне не паспявае падключаць новыя. Толькі ўставяць — і зноў уся сярэдзіна выпарата. А людзям звані хоць зубамі.*

**(мш)**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Астроне! Прысніўся мне незвычайны сон. Быццам я пайшла да некага са сваіх знаёмых і бачу: на сцяне ў іх вісяць карціны, намаляваныя быццам маёй дачкой (яна і сапраўды крыху малюе). Былі гэта, аднак, карціны вельмі прыгожыя, быццам намаляваныя сапраўдным мастаком; я падумала: „А ўсё ж прыгожа яна малюе!“ Пасля ізноў я бачыла, як мой сябра-мастак маляваў карціну. Вельмі спрытна ён маніпуляваў пэндзлем, і на палатне пасля кожнага мазка паяўляліся кветкі. Я вельмі здзівілася, што ён так хутка і добра ўмее маляваць. Кветкі былі вельмі падобныя на жывыя. Ці добрыя гэтыя мае сны, Астроне?

Анна

Мне прыснілася, што мы атрымалі ў горадзе новую кватэру. Была гэта, аднак, дзіўная кватэра. Усе сцены ў ёй былі абабіты чырвоным плюшам, а даехаць да яе ліфтам было немагчыма. Я спрабавала ісці сходамі, але яны таксама былі нейкія дзіўныя, у пэўным месцы яны звужаліся; так што я ніяк не магла прайсці. Тады я спрабавала дацягнуцца да ліфта, але і гэта мне не ўдалося.

I. K.

**Анна,** нядобрыя твае сны. Абазначаюць яны, што маеш крывадушных сяброў. Не вер ім, манюкам. Ой, і будзе ў цябе з імі нейкая перапалка!

**I. K.,** і твае сны нядобрыя. Абазначаюць яны вялікія затрудненні ў „сардэчных“ справах. Чакае цябе здрада, якая звязана з нейкім падарожжам, бо ў новай хаце сцены былі абабіты плюшам.

**Астрон**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Прыватнай умовай Ф. купіў у 1960 годзе пляц. У 1962 годзе ён ажаніўся. У 1973 годзе ён атрымаў акт уласнасці. У часе супольнага жыцця быў пабудаваны на пляцы дом. У 1975 годзе Ф. атрымаў развод па віне жонкі. Ці былая жонка мае права на пляц і дом?

АДКАЗ: Ф. не стаў уласнікам пляца, паколькі нерухомую маёмасць можна набыць толькі натарыяльным актам, а ён купіў пляц прыватнай умовай. Уласнасць ён атрымаў толькі ў выніку адміністрацыйнага рашэння. Гэта было ў часе супольнага жыцця, г.зн. перад разводам. Усё, што набыта мужам або жонкай у гэтым часе, з'яўляецца супольнай уласнасцю. Значыць, жонка мае аднолькавае права на пляц і дом. Гэтае права не залежыць ад таго, па чыёй віне наступіў развод. Толькі ў тым выпадку, калі б было ўстаноўлена, што жонка ні ў чым не спрыяла будове дома, або дапамагала толькі нязначна, Ф. мог бы патрабаваць вызначэння яе ўдзелу згодна з тым, наколькі яна спрыяла ўзнікненню маёмасці. Аднак, калі б было ўстаноўлена, што ўдзел жонкі ў будове дома зводзіўся да вядзення ёю дамашняй гаспадаркі, такое патрабаванне было б беспадстаўнае.




Дарагое Сэрцайка, я замужняя, маю двое малых дзяцей. Выйшла замуж з вялікага кахання і была шчаслівай. Не працую, але муж памагае мне ва ўсіх хатніх працах. За дзецьмі проста прападае. Суседкі зайздросцяць мне такога мужа. Ніколі я не заўважыла, каб цікавіўся ён іншымі жанчынамі. Але здарылася такое, чаго не спадзявалася. На працы мужа арганізавалася экскурсія. І муж хацеў, каб і я разам паехала. Знайшоў і апякунку для дзяцей на гэты час. Ужо была я і згадзілася, але потым адпала нейк ахвота, і муж паехаў сам. Муж вярнуўся, прывёз мне і дзецям падарункі, многа расказваў, што бачыў на экскурсіі. Але праз некалькі дзён я атрымала ліст, адрасаваны на маё імя. Я прачытала і аж валасы дуба сталі. А чаго ж там не было пра майго мужа напісана! Што ён толькі і не выраблаў на гэтай экскурсіі, мне здраджваў. Толькі не было, праўда, прозвішчам падпісана, а толькі — „знаёмая“. Страсянула гэта пісьмо мною, як ліхаманка. Калі муж увайшоў у хату, я накінулася на яго. А ён стаіць, бы слуп. Здзіўлены, адкуль я гэта ўсё ўзяла. Апраўдваўся, а я ліст урэшце пад нос яму падсунула. Чытай! А ён кажа — бздура! І як не тлумачыцца, не веру я яму. Маё жыццё стала кашмарам. Каб не дзеці, кінула б яго адразу. Што тады рабіць?

Вера з Бельшчыны

Вера! Бздура гэта ўсё — і я паўтараю за мужам. Камусьці, можа праз зайздрасць, захацелася пасварыць вас. І карыстаючыся нагодай, што муж паехаў сам, напісаў гэты ананім. Нібы хацеў табе тут такую прыслугу зрабіць. А чаму тады не хапіла адвагі падпісацца?! Не муч ні сябе, ні мужа. А ў хаце не заседжвайся. І сямейным людзям крыху сярод людзей бываць трэба.

**Сэрцайка**



## Куток практычных ведаў



## Спартыўная мода для мужчын



Сёння, як усім вядома, мужчыны аддаюць перавагу спартыўнай вопратцы. На нашых здымках вы бачыце два вязаныя свіцеры і куртку са штучнага рэчыва.

Куртка гэта вельмі практычная. Яна не прамакае ў дождж, ахоўвае ад ветру (рукавіцы сцягнуты шнуркамі, як і талія, высока зашпілены на кнопкі каўнер).

Што датычыцца свіцераў, дык адзін з іх зроблены ў форме пулавера, яго можна апрануць на нейкую кашулю з прыгожым каўняром. Другі свіцер зроблены з белых нітак. Фасон — як куртка. Спераду модная кішэнь, рукавы на гумцы, каўнер на замку. Пад яго дастаткова апрануць нейкую маечку. Цёпла і прыгожа!

**Сяброўка**








Але незаўважанымі пайсці ўжо было немагчыма.

Адагнаўшы затрымаўшых бліжэй да хаты, у якой, відаць, размяшчалася „дзяжурка“, салдат уважліва разглядаў дзяўчат. Высокі, з чорным, даўно не голеным тварам, паблісквакочы белымі зубамі, ён штосьці весела гаварыў свайму напарніку, рыжаватаму, падобнаму на немца каржакаватаму здараўяку, які прытрымліваў рамень аўтамата, што спаўзаў з яго пляча.

— Вылупілі вочы, чэрці! — ціха вылаялася Надзя. — Ну, што будзем рабіць?

— Давядзецца ісці!

Надзя ўздыхнула і рэзкім рухам, у якім адчувалася крыху напускная бясстрашнасць, закінула клунак з рэчамі за спіну.

Салдаты павольна рушылі ім насустрач.

— Вуно зію!*) — прамовіў высокі салдат з нашыўкамі сержанта і зрабіў крок ім насустрач. У яго руху не было нічога пагражальнага.

Надзя крыху адстала ад Лены і непрыкметна выкінула ў канаву апошні кавалак шакаладу: рускі шакалад можа стаць доказам супраць іх. У гэты час другі салдат, каржакаваты і нізкаслы, падкінуў на плячы рамень аўтамата, які споўз, і выйшаў на сярэдзіну дарогі.

— Куды ідзеце? — спытаў ён па-руску, і на яго твары ўзнік выраз насцярожанасці: ён, відаць, не адабраў дабрадушнага тону свайго напарніка.

— У Адэсу, — адказала Лена.

— Адкуль?

Дзяўчаты памаўчалі. Так добра прыдуманая легенда паляцела да д'ябла! Памылка на якія-небудзь пятнаццаць кіламетраў — і трэба ўсё прыдумваць нанава.

— Ну! — прыкрыкнуў салдат. — Дзе пашпарт?!

Ён зняў з пляча аўтамат, прыпёр яго да нагі, усім сваім выглядам паказваючы, што не мае намеру спяшацца, і працягнуў руку.

Кароткія пальцы са слядамі чорнага ружэйнага масла, якое ўелася пад пазногці, нецярпліва варушыліся.

— Зараз, зараз! — прамовіла Лена, дастаючы з кішэні пашпарт. — Вось, калі ласка!

Пальцы салдата вырвалі пашпарт з яе рук. Гэты рэзкі рух, здавалася, ужо прадракаў усё далейшае.

„Не адпусцяць!“ — падумала Лена і паглядзела на Надзю, якая трымала свой пашпарт у руцэ, чакаючы, калі яго запатрабуе салдат.

Гэта спакойнае чаканне і Надзін лянівы, крыху насмешлівы позірк міжволі супакоілі Лену. Яе пашпарт цяпер пераходзіў з рук у рукі. Абодва салдаты па чарзе перагортвалі яго, прыдзірліва разглядаючы пячаткі і штампы.

— Адкуль? — зноў перапытаў той, што быў ніжэйшы ростам.

— З Марыупаля! — адказала Лена.

— Чаму тут ідзеце?

— У мяне хворая цётка! — выпаліла Надзя.

На нятоленым твары салдата з'явілася сумненне. Ён штосьці сказаў сержанту, і той у адказ кіўнуў галавой.

— Дзе пропуск?

— Вось ён! — Лена падала нямецкі пропуск. Салдат здзекліва ўсміхнуўся.

— Трансністрыя належыць румынам. Дзе румынскі пропуск?

— Нам далі толькі гэты, — сказала Лена, здзіўлена пагдядзеўшы на Надзю; аб тым, што патрэбен яшчэ і румынскі пропуск, ніхто ім не казаў.

— Дзе жывеце?

— Мы з Марыупаля!.. — прамовіла Лена і падала Надзін пропуск у доказ таго, што ў іх аднолькавыя пропускі, і калі румынскіх няма, то вінаваты тыя, хто выдае іх у Марыупалі.

Моцна сціснуўшы ў руцэ дакументы, салдат рашуча махнуў рукой у бок хаты, дзе стаялі затрыманыя.

— Пайшлі туды! Вы арыштаваны.

— Дзядзечкі! — жаласліва ўсклікнула Лена. — Адпусціце нас!.. Мы не ведалі!..

— Як жа вы сюды трапілі? — зноў недаверліва спытаў салдат.

І тут прыйшла на дапамогу Надзя, якая да гэтага часу маўчала. Яна, нарэшце, прыдумала версію, якая апраўдвала іх з'яўленне на дарозе ў Свярдлова.

— Нас з Марыупаля вывезлі ў закрытай машыне нямецкія салдаты! Ды ў

# ТРЫБУНА чытачоў

### ЯК ПРАЦУЕ ГРАМАДСКАЯ ПАЯДНАЎЧАЯ КАМІСІЯ Ў ШУДЗЯЛАВЕ

Грамадскія паяднаўчыя камісіі працуюць пры гмінных радах. Заданне іх — мірыць людзей ва ўсялякіх дробных справах і нязгодах, найчасцей — суседскіх. А многа на вёсках бывае такіх спраў. Суседзі пасварацца за дзяцей, а потым доўга злуюцца і не гавораць паміж сабою. Або часта так бывае на вёсцы, што суседкі пасварацца за курэй.

У Шудзялаве ў 1977 годзе грамадская паяднаўчая камісія разгледзела 48 спраў. Большасць з іх была даведзена да згоды і ладу. Толькі ў рэдкіх выпадках камісія не змагла пагадзіць закаранелых злоснікоў. Былі нават такія заядлыя, што, па-суседску жывучы, па тры гады не гаварылі паміж сабой. Дык і радасць была вялікая, калі ўдасца людзей пагадзіць. Яны падаюць сабе руку на згоду і абяцаюць жыць у дружбе.

Нялёгкая праца камісіі, але вельмі ўдзячная.

**Віт**

## „Бяздэнніца“

Назву такую дала легенда, якая кажа, што возера гэтае не мае дна, бо калісці, як утапіўся тут вол жыхара вёскі, дык выплыў аж у рацэ Нёман.

Маленькае возера ляжыць на ўскраіне вёскі Астравок у Шудзялаўскай гміне. Калісьці было ў ім вельмі многа салодкаводнай рыбы, а вакол розных звяроў. Штогод, аднак, флора і фауна бяднее.

Гэтым помнікам прыроды, які ляжыць пры шашы Саколка-Крынкі, павінны зацікавіцца ўлады гміны ці развіваючагася вялікага сельскагаспадарчага камбіната, якім з'яўляецца ПГР у Крынках. Можна тут зрабіць прыгожы прыпынак для турыстаў. І многія знойдуць месца на адпачынак пасля цяжкай працы.

**Я. Бандарук**

## Актыўныя гаспадары

Сукавічы — гэта вёска, якая выдзяляецца сярод іншых вёсак актыўнасцю сваіх гаспадароў. Мэтай і амбіцыяй людзей тутэйшых з'яўляецца павелічэнне прадукцыі, перш за ўсё ў жывёлагадоўлі і вырошчванні раслін.

Дасягненні за мінулы год прадстаўляюцца наступным чынам: на 100 гектараў земельных угоддзяў яны дабіліся 55 штук кароў, 120 штук свіней, 140 штук авечак.

За высокія вынікі ўлады гміны ў Шудзялаве прызналі вёсцы ўзнагароду — 30 тысяч зл. За гэтыя грошы гаспадары Сукавіч купілі сеўнікі для падсеву мінеральных угнаенняў. Ды на гэтым не затрымаюцца сукавіцкія гаспадары. Яны будуць яшчэ лепш старацца, каб павялічыць сельскагаспадарчую прадукцыю і выкарыстаць рэзервы, якія яшчэ ў кожнай гаспадарцы ёсць.

У новым 1978 годзе жадаем як найлепшых поспехаў актыўным Сукавічам!

**Я. Бандарук**

---

нас нідзе і пропускаў не пыталіся! — крыкнула яна і працягнула руку, каб выхапіць дакументы.

— Ну, ну! — пагрозліва сказаў салдат. — А дзе машына?

— Збочыла да Святлічнага! Вунь там мы вылезлі, на развілцы дарогі!.. — Надзя махнула рукой у бок моста.

Салдат паглядзеў туды, куды яна паказвала, і, хоць ніякай развілкі не ўбачыў, усё ж паддаўся гарачай перакананасці Надзі.

— Дзядзечкі, адпусціце! — адчуўшы ваганне салдат, жаласліва папрасілася Лена, выцягнула з кішэні сорак марак і ўткнула іх у руку каржакаватага.

Той усміхнуўся, пералічыў грошы і дзелавіта сказаў:

— Мала! Давай яшчэ дваццаць!..

Надзя падала яму яшчэ дваццаць марак; салдаты падзялілі іх між сабой, і каржакаваты, з маўклівага адабрэння свайго сержанта, вярнуў дзяўчатам дакументы.

— Ідзіце і больш не пападайцеся! — грубавата сказаў ён.

*(Працяг будзе)*

*) Добры дзень! (румын.)




## Хай жыве араты!

*Вёска старыцца штогод,*
*Люд сялянскі йдзе ў разброд,*
*ПГР тым клопат мае —*
*Поля год ў год прыбывае.*
*Клопат з клопатаў ўсе годы:*
*Рук рабочых брак заўсёды*
*Ў нас, хоць гаць-гаці з турыстаў,*
*Як лякарства — трактарыстаў,*
*Якіх неабходна трэба,*
*Каб мага, сцягнулі б з неба.*
*Ў моладзі няма ахвоты*
*Меці з трактарам турботы.*
*Днямі ў полі адзінока,*
*Заўша пільнасць, ўправа вока,*
*Ад гаручага — смурод,*
*Пыл скрозь лезе, ў вушы, рот.*
*О, не мурзай-трактарыстам,*
*Моладзь марыць быць турыстам,*
*Разнастайна й лёгка жыць,*
*Недарэчнасцю маніць —*
*Каб штодзённа меці свята,*
*Купу грошай, дачу, ф'ята,*
*Есці смачную ежу,*
*Сют-тут ездзіць за мяжу.*
*Не брахня мо, што турысты*
*Жывуць гойней, як міністры.*
*Вось дзе крыецца прычына,*
*Й трактары стаяць бясчынна.*
*Мус-няволя й ПГРы*
*Іншыя прымаюць меры.*
*Дзе збіралі тоны грэчкі,*
*Сёння пасвяцца авечкі;*
*Дзе, бывала, рос авёс,*
*Надлясніцтва садзіць лес.*
*Не ляжаць зямлі ж адлогам —*
*Ад людзей смех, грэх прад богам.*
*Надкрытычну з'яву гэту*
*Мала замясціць ў газету,*
*Мус нагвалт ужыць заходы,*
*Звузіць ўсім турыстам ходы.*
*Але то ўжо справа ўлады.*
*Каб мяне спытаў хто рады —*
*Я параіў бы турыстам*
*Скончыць курсы трактарыстаў.*
*Хочаш ўскочыць за мяжу*
*Марнатравіць час, ежу,*
*Ў ПГР сып ўпершыню*
*Ў час вясны ці восенню,*
*На трактары працуй у полі —*
*Ары, сей насенне ў ролю.*
*Ярыны ці азіміны —*
*Буйна хай растуць збажыны.*
*Сяўбу скончыў, узіму, летам —*
*Дуй за мяжу з лёгкім ветрам!*
*Не адробіш тэрмін з гакам,*
*То дастанеш фігу з макам,*
*А не візу за мяжу.*
*Ці не праўду я кажу?*
*Моладзі ж на добры лад*
*Варта браць з Пятра прыклад,*
*Што ў Расіі быў царом:*
*Умеў ўладаці тапаром,*
*Усім майстрам быў родным братам,*
*Сам быў цеслем і салдатам,*
*Чорнай працы не цураўся —*
*Тым Вялікім Пятро зваўся.*
*Гэта быў феномен-цар —*
*Рэчаісты гаспадар.*
*Як рабочы, проста жыў,*
*Бо народ свой й край любіў.*
*Й тым, што быў ўсечалавечны,*
*Заслужыў на памяць вечну.*
*Вы ж, людцы, з прастанароддзя*
*Разгультайнічаліcь, ўродзе.*
*Скуль ў вас панскія навыкі*
*Узяліcь, о бог вялікі!*
*Не паходзіце ж з паноў,*
*А з сялян-гаспадароў!*
*Памры сёння бацька й маці —*
*Й поля некаму араці,*
*Бо вы з часоў лаўкі школьнай*
*Рвеце сувязь з хатай роднай,*
*Шпарыце у свет шырокі*
*На усе чатыры бокі.*
*Ў вашым поглядзе араты*
*Недацёпа, кляпа варты.*
*Моладзь, схамяніся, стоп!*
*Змяні погляды і троп.*
*Вы ў мінуўшчыну загляньце,*
*Сваіх продкаў не паганьце.*
*Што ў вяках гіблі ў змаганні,*
*Зямлі й волі здабыванні.*
*Праца хай жыве й араты!*
*Край наш моцны і багаты.*
*Уся надзея ў нас на вас*
*На ваш гонар...*

**Дзядзька Квас.**




### АДКАЗАЛІ НА КРЫТЫКУ

У 44/1131 нумары „Нівы“ ад 30 кастрычніка 1977 года ў заметцы „Грошы ў балоце“, я крытыкаваў Раённае прадпрыемства меліярацыі ў Бельску Падляшскім, якое дрэнна выканала дрэнаж на палях вёскі Чаромха, што не чысцяць меліярацыйныя равы, а на скаргі сялян чыноўнікі бельскага РПМ не хутка з'яўляюцца, каб паправіць памылкі.

Будучы ў Беластоку, я зайшоў у рэдакцыю, а Янка Цялушэцкі мне кажа: „Пішы лепш крытыку, а то ў цябе факты не правяраюцца...“ — і паказаў мне адказ бельскага РПМ.

Крытыкаванае прадпрыемства ў сваім пісьме пісала, што ўсяго было тры скаргі з Чаромхі, аднак памылкі былі хутка папраўлены. Апошні рамонт трубаправода быў зроблены ў чэрвені 1977 года. Значыцца, што я ў кастрычніку пісаў няпраўду. Пры гэтым было адзначана, што адказ быў узгоднены з Чаромхаўскай гмінай.

Я зразумеў, што хтосьці тут хлусіць. Пайшоў я ў гміну, каб высвятліць справу. Начальнік і сакратар пацiскалі плячыма, нічога не ведалі, толькі інструктары сельскагаспадарчай службы так мне сказалі: „Былі ў нас з бельскага РПМ у справе вашага артыкула, толькі не было тады Янкі Качаноўскага, які кампетэнтны ў той справе (ён адказны за вёску Чаромху). Аднак мы пацвердзілі, што сапраўды ёсць скаргі з вёскі Чаромха і паказалі прозвішчы тых сялян. Нават Валянціна Кердалевіч прапанавала паехаць да тых людзей. Чыноўнікі адкінулі прапанову працаўніка гміны, а проста сказалі, што будуць ужо ведаць які даць адказ. І вось яго атрымала „Ніва“. Гэтак уладзіла справу РПМ.

Хачу дадаць, што ў вёсцы Чаромсе не былі і нічога не правяралі. Нядаўна была паслана зноў скарга сялян на дрэнна праведзеную работу. Ці хутка нехта з'явіцца — цяжка сказаць. Калі справы будуць рашацца так, як скарга жыхароў вёскі Чаромха, дык трэба будзе пачакаць каля паўтара года рамонтнай брыгады з РПМ.

Вось як у нас адказваюць на крытыку. Мала таго, што вінаватыя не прызнаюцца да віны, ды яшчэ хочуць яе скінуць на каго іншага. Ці ж так павінны ў нас адказваць людзі на адказных пасадах? Я думаю, што чыноўнікі Бельскага раённага прадпрыемства меліярацыі пралічыліся, думаючы, што замкнуць вочы і рот рэдакцыі „сваёй праўдай“. Я хачу сказаць, што справа не замкнулася і ў далейшым дамагаемся саліднага ўпарадкавання яе.

**Ул. Сідарук**

## Ці ў сне прыснілася?

ГС у Крынках мае свой пункт продажу ў Бабіках. Тут купляе 14 вёсак. Людзі вельмі цешацца, што не трэба далёка ехаць па мінеральныя ўгнаенні, па вугаль, цэмент ці мяшок мяшанкі для свіней. Найдалейшыя вёскі маюць да Бабікаў 6 км. Ужо лепш і быць не можа!

Трошкі людзі спачатку наракалі, што каса далёка, бо ГС знайшоў памяшканне на касу ў адлегласці 1 км ад Бабікаў. Потым аднак людзі прывыклі, і было добра.

Аднак у ГС-е праз нейкі час пачалі думаць, як палепшыць людзям жыццё. І палепшылі. Перанеслі менавіта касу ў Шудзялава, а ў Бабіках грошы ад продажу прымаў рабочы, які выпісваў квітанцыі, а ў канцы дня заносіў тыя грошы на пошту. Людзям стала яшчэ лепш.

Ну, што ж, кіраўніцтва ГС нездарма галаву мае. Так стараецца, каб гаспадарам жыццё паляпшаць. Пачалі так ламаць галаву, што не маглі начамі спаць. Ці ведаеце, даражэнькія, што сталася? Аднойчы ім, мабыць, у сне прыснілася, што найлепш будзе, калі людзі самі будуць вазіць свае грошы ў Шудзялава — 10 км. Так і зрабілі. І цяпер, калі хочаш найменшую рэч купіць, едзь у Шудзялава. Што там ГС-у да таго, што людзі трацяць час. Трэба табе мяшок „Провіту“, шпарка ў Шудзялава пры! Там заплаціш, атрымаеш квітанцыю, а „Провіт“ возьмеш у Бабіках. Лепш і быць не можа!

**Э. Ш.**

### НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

У Беластоку „Жук“ падбіў жанчыну, якая ў апошнюю хвіліну ўвайшла на сярэдзіну вуліцы. У выніку — патрасенне мазгоў.

А на вуліцы Гагарына здарыўся страшны выпадак. На пераходзе для пешаходаў „Жук“ жанчыну забіў на месцы.

У Беластоку аўтобус „Сан“ неасцярожна пад'ехаў да чыгуначнага пераезду, захутка ехаў, і ўдарыў у бок праязджаючага паравоза. Некаторыя пасажыры „Сана“ паранены.

А на скрыжаванні вуліц Вяжбовай і Ванды Васілеўскай у Беластоку „Вартбург“ наехаў на 6-гадовую дзяўчынку, якая, будучы без старэйшых, убегла на сарэдзіну вуліцы. На шчасце, яна паранена толькі лёгка.

У Кляшчэлях быў пажар. Згарэла мураваная, крытая бляхай стадола. Часткі сёлетніх плёнаў і сельскагаспадарчых машын не ўдалося выратаваць. Вартасць згарэўшага дабра аблічваецца на 70 тысяч зл.

## Што пільнейшае — тое першае

У Шудзялаве ёсць школа, якая пабудавана была пры цары, у 1907 годзе. Гэта школа маленькая. У ёй змяшчаецца палова дзяцей школьнага раёна. Ад 1946 года гміна наймае два пакоі ў двух будынках на школьныя класы. Гміна выдала ўжо многа грошай на арэнду гэтых пакояў.

У 1950 годзе ў Шудзялаве была запраектавана школа, нават прыступілі да яе будовы. Выкапалі фундаменты, і на гэтым праца закончылася. Да сённяшняга дня на гэтым месцы нічога не робіцца. Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што Шудзялава гэта гмінны цэнтр, і вялікая школа тут вельмі патрэбная.

У апошні час у гміне выявілася такая новая прапанова. У 1978 годзе па плану павінна распачацца пабудова вялікай пажарнай рамізы са святліцай. Людзі прапануюць, каб будову рамізы адлажыць на пазнейшы час, а за тыя грошы пачаць будаваць школу. Раміза таксама патрэбна ў Шудзялаве, але школа яшчэ больш. Раміза можа яшчэ пабыць у тым будынку, дзе цяпер.

**Віт.**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі „КАЖУЦЬ, ШТО...“, „Ніва“ № 49/1136 ад 4 снежня 1977 года.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKI ZWIĄZEK SPÓŁDZIELNI ROLNICZYCH „SAMOPOMOC CHŁOPSKA” ZAKŁAD OBROTU ARTYKUŁAMI PRZEMYSŁOWYMI I SPOŻYWCZYMI W BIAŁYMSTOKU.**

W nawiązaniu do notatki prasowej zamieszczonej w tygodniku „Niwa” z dnia 4 XII 1977 roku informujemy, że ponownie interweniowaliśmy w GS Kleszczele w sprawie skupu butelek przez sklepową ze wsi Kuzawa.

W odpowiedzi Gminna Spółdzielnia w Kleszczelach powiadomiła nas pismem z dnia 28.12. 1977 r., że zobowiązano sklepową w Kuzawie do prowadzenia skupu butelek bez względu na posiadane zapasy.

Trudna sytuacja w skupie opakowań wynikła na skutek trudności w odbiorze butelek przez Spółdzielnię Transportu Wiejskiego w Hajnówce ze względu na spiętrzenie przewozów w ostatnim kwartale ubiegłego roku.

**Dyrektor**
**inż. G. Prokopczyk**

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.



# ДЗВЕРЫ



Усё пачалося ад таго, што архітэктар запраектаваў дзверы. Размяшчэнне іх менавіта ў гэтым месцы было мэтазгодным як з функцыянальнага, так і эстэтычнага боку.

Потым прыйшоў муляр. Змяшаў пясок з цэментам, падсыпаў вапны, заліў усё гэта вадою, старанна перамяшаў і адразу ж узяўся за работу. Атрымлівалася гэта ў яго надзвычай спрытна, бо і вопыт меў багаты, і вялікі стаж будаўніцтва. Апроч таго, любіў добрую работу.

Як толькі скончыў муляр, з'явіўся сталяр. Сталяр меў з сабою гатовыя касякі з завесамі, так што змайстраваць іх было справай не складанай. Справіўся з гэтым даволі хутка. У адным месцы стукнуў, у другім прыстукнуў, павесіў дзверы на завесы і гатова.

Не паспеў сталяр закурыць, а ўжо ля дзвярэй стаяў шкляр. Шкляр прымерыў усё, падагнаў шыбы, дастаў з кішэні кіт. Зрабіў усё спрытна і дакладна.

Пасля прыйшоў слесар. Прыладзіў ручкі, замок. Змазаў завесы, праверыў, ці лёгка адчыняюцца дзверы, паглядзеў на ўсё яшчэ раз уважліва і дастаў бутэрброд.

Не паспеў ён і разу ўкусіць, а ўжо ля дзвярэй стаяў загадчык магазіна. З адной кішэні выцягнуў тоўсты ланцуг, з другой — вялізны замок. Потым адшукаў у кішэні ключ ад замка. Выходзіла гэта ў яго надзвычай спрытна, бо і вопыт меў багаты, і вялікі стаж работы ў гандлі. Апроч таго, любіў добрую работу.

Працягнуў ён ланцуг праз абедзве ручкі, павесіў замок і двойчы шчоўкнуў ключом. Пасля прымацаваў таблічку: „Уваход побач".

**Раман Маеўскі**



### ПАЦЕШЫЛА

Задрыпанка ўпершыню ляціць самалётам і вельмі баіцца.

— Скажыце, — пытае яна сцюардэсу, — як часта разбіваюцца самалёты?

— Толькі адзін раз.

### ЗАДРЫПАБСЛУГОЎВАННЕ

— Чаго яны рагочуць?

— Ды, пэўна, наш дырэктар зноў чытае Кнігу скаргаў сваім сябрам.



**...У яго былі такія патрэбнасці, што не хапала здольнасцей.**





## Дзякуй, друг Пілiп!

Як начальніка Пілiп
Крытыкнуў на сходзе,
Дык падумаў:
— Вось уліп.
Так уліп, што годзе.

А начальнік — проста смех! —
Паціскае рукі.
Пры народзе, ну пры ўсіх:
— Дзякуй за навуку!

Б'еш ты крытыкі агнём
Нашы непаладкі.
Ужо сёння ж мы пачнём
Наводзіць парадкі!

Дзякуй, дзякуй, друг Пілiп,
За твае турботы:
Пазбаўляеш нас ад хiб,
Мы цябе... работы!

**Якім Давідзенка**

### З ЖЫЦЦЯ КАСТУСЯ

Пракурор: — Лепшае, што вы можаце цяпер зрабіць, дык гэта пайсці дамоў і памірыцца з жонкай.

Кастусь: — А мо параіце, што горшае?

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Віла кіназоркі ахоплена полымем. Пажарнікі нацягваюць палотнішча і прапануюць актрысе выскачыць з акна.

— І не падумаю, — упарціцца яна. — Пазваніце рэжысёру, каб выслаў дублёрку!

✲

Шатландзец высылае сябру тэлеграму наступнага зместу: „Найлепшыя пажаданні з выпадку Новага года і тваёй дня нараджэння за 1978-1988 гады".

✲

Француа пайшоў у школу ў 8 гадзін, але ў 8.30 ён вярнуўся дамоў.

— Чаго ты вярнуўся? — усхвалявана запытала маці.

— Ты ж мне казала быць асцярожным! — адказаў хлопчык.

— Так. Ну і што?

— Калі я падыходзіў да школы, то ўбачыў надпіс: „Асцярожна — школа" і таму павярнуў назад.





### АДВАЖНЫ СЫН

Білі аднойчы ў карчме аднаго задрыпанца. Прыйшоў ён дадому ды й скардзіцца перад сваім сынам, які яшчэ кавалерам быў.

— Пойдзем, татка, — кажа сын, — я ім пакажу, як майго тату біць.

Прыйшлі яны ў карчму, выйшлі на сярэдзіну, сын смела азірнуўся навокал ды й крыкнуў:

— Хто майго тату біў?

— Я! — азваўся адзін юнак ды й выступіў з-паміж людзей.

— Ану, спрабуй яшчэ раз! — кажа сын, сціснуўшы моцна ў руцэ дручок.

А юнак — лусь! у твар старога.

— Ану яшчэ раз! — крыкнуў сын і падскочыў да юнака.

А той яшчэ раз — лусь! старога.

— Э, — кажа сын, чухаючыся ў галаве, — пойдзем, татка, бо тут яшчэ і мяне будуць біць.

Выйшлі з карчмы, а бацька і кажа:

— Дзякуй табе, сынок, што хоць ты заступіўся за мяне.





### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ніны Веселоўскай са Скупава змяшчаем песню*

## BĘDZIESZ TY

Słowa: Janusz Kondratowicz
Muzyka: Sławomir Kowalewski

Nie nazwana, ale bliska,
w moich słowach, w moich myślach,
będziesz ty.
W przemijaniu dni i godzin,
w wierszu, który za mną chodzi,
będziesz ty.
W listach, które czasem piszę
i w milczeniu, które słyszę,
będziesz ty.
W każdej stronie mego świata
i w najwyższej trawie lata,
będziesz ty.
W mej podróży przez codzienność,
zawsze przy mnie, zawsze ze mną,
będziesz ty.
W zamyśleniu i w rozmowie,
w róży, która parzy dłonie,
będziesz ty.
W echu, które wraca znikąd,
w ciszy, która jest muzyką,
będziesz ty.
W bezsenności mej i we śnie,
nie nazwana dzisiaj jeszcze,
będziesz ty.

Podzielimy między siebie
całe niebo, całą ziemię,
każdą radość niecierpliwą,
to co będzie, to co było,
wszystkie nasze dzienne sprawy,
Wszystkie nasze zapomnienia,
bo prócz siebie nic nie mamy,
nic nie mamy do stracenia.





### У ПАГОНІ ЗА ПАПУЛЯРНАСЦЮ

У наш век так многа прэтэндэнтаў на акцёрскую славу, што часам разгубленая публіка ўжо і не ведае, каму з іх аддаць перавагу, каго лічыць сваім кумірам.

Гэта адчула і амерыканская артыстка Элізабет Тэйлар. У яе была сякая-такая папулярнасць, але яна яе не задавальняла. Жанчыне хацелася прыдумаць нешта такое, каб пра яе загаварылі, як кажуць, на ўсіх скрыжаваннях. І надумалася. Зараз аб ёй не проста гавораць аматары сцэнічнага мастацтва і піша сусветная прэса. Апрача падрабязных артыкулаў аб жыццёвым і творчым шляху кіназоркі, публікуюцца шматлікія фотаздымкі і кінакадры, якія паказваюць яе ў незвычайным для артысткі выглядзе, скажам... на трактары альбо сярод градак капусты.

Справа ў тым, што выйшаўшы нядаўна (аж у шосты раз!) замуж за аднаго з былых міністраў, які зараз мае ферму і займаецца адвакацкай практыкай, Элізабет вырашыла стварыць рэкламу для фермы, спалучаючы сваю артыстычную славу і славу захопленай гаспадарчымі клопатамі фермерavай жонкі. А паколькі яе муж збіраецца прапанаваць сваю кандыдатуру для выбараў у сенат ЗША, то Элізабет, ведаючы непатрабавальны густ амерыканскіх абывацеляў, спадзяецца зрабіць мужу неабходную паслугу ў прапагандзе і папулярызацыі яго кандыдатуры. Яна рыхтуе шараг выступленняў у друку і па тэлебачанню з гэтай мэтай, і сцэнічная дзейнасць яе пераходзіць на другі план.




**Калі няма сваіх думак, у галаву прыходзяць чужыя.**